*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак* БАГУШЭВІЧ




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ 31 (139) ◆ 4 жніўня 1993 г. ◆ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***27 ліпеня Рэспубліка Беларусь трэці раз адзначыла свята суверэннай дзяржавы — Дзень незалежнасці.***

◆◆◆

**29 ліпеня ў офісе БНФ «Адраджэньне» ў Менску (вул. Варвашэні, 8) адбылося першае пасяджэнне арганізацыйнага камітэта па святкаванні гадавіны беларускай вайсковай славы. Удзельнікі абмеркавання выступілі з рознымі канцэптуальнымі прапановамі правядзення ўрачыстасці. Невялікая дыскусія ўзнікла падчас вызначэння назвы «Дзень Аршанскай бітвы (1514)», «Дзень беларускай вайсковай славы», «Свята абароны краю». Розныя бакі прапанавалі сваю аргументацыю, зважаючы на гістарычныя і палітычныя рэаліі сённяшняга беларускага грамадства. А як на нашу думку, дык добра было б пазбегнуць «саўковых» стэрэатыпаў у абыходжанні са словазлучэннямі тыпу «баявой і працоўнай славы». Занадта свежая традыцыя...**

**Свята задумваецца, як тэатралізаваны рок-фэст з патрыятычнымі мэтамі. Верагодна, яно адбудзецца 8 верасня 1993 г. у 18 гадзін на Траецкай гары ў Менску (паблізу Опернага тэатра).**

**Л. ЛІПЕНЬ.**

◆◆◆

**РАСПАРАДЖЭННЕМ СТАРШЫНІ САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ВЯЧАСЛАВА КЕБІЧА ЎТВОРАНА РАБОЧАЯ ГРУПА, якая будзе рыхтаваць праект дагавора і іншыя дакументы, што павінны рэалізаваць Заяву ўрадаў Беларусі, Украіны і Расіі аб неадкладных мерах па паглыбленні эканамічнай інтэграцыі.**

◆◆◆

***У БЕЛАРУСІ ЗАРЭГІСТРАВАНЫ 33 дзяржаўныя і 8 недзяржаўных ВНУ. Нямала, але ж у большасці з іх мала чаго беларускага.***

◆◆◆

***У МСЦІСЛАВЕ АДБЫЛОСЯ ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар першага старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Міхася Ткачова, на будынку, у якім ён школьнікам атрымаў першую адукацыю.***

◆◆◆

***У НАВАПОЛАЦКУ АДБЫЛАСЯ навукова-практычная канферэнцыя па праблемах дзяржаўнага ладу Беларусі.***



8 ліпеня. Менск. Адкрыццё Першага з'езда беларусаў свету. **Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ.**

# ВЯЛІКІ СХОД БЕЛАРУСАЎ

***У Менску 8—10 ліпеня адбыўся Першы з'езд беларусаў свету, на які прыехала больш за 1200 чалавек з краін блізкага і далёкага замежжа.***

Такім чынам, дайшло ўрэшце да паяднання і паразумення беларусаў усіх кантынентаў дзеля агульнай справы адраджэння нацыі. Ад імя ўрада РБ у з'ездзе ўдзельнічалі Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, намеснік Старшыні Савета Міністраў Міхась Дзямчук, міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч, міністр культуры Яўген Вайтовіч, міністр адукацыі Віктар Гайсёнак і іншыя афіцыйныя асобы.

Беларускую грамадскасць прадстаўлялі пісьменнікі, вучоныя, дзеячы палітычных партый, сябры культурных згуртаванняў, таварystваў і суполак, у тым ліку ад ТБМ імя Ф. Скарыны, Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра Ф. Скарыны, БНФ «Адраджэньне», Беларускага згуртавання вайскоўцаў, Беларускай сялянскай партыі, іншых партый і арганізацый, а менавіта Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Радзім Гарэцкі, Эдуард Агуновіч, Яўген Лецка, Ганна Сурмач, Генадзь і Анатоль Лычы, Мікола Ермаловіч, Аляксей Марачкін, Адам Мальдзіс, Зянон Пазьняк, Юры Хадыка, Леанід Баршчэўскі, Юрась Беленькі, Ян Матусевіч, Мікола Статкевіч і іншыя.

З Аўстраліі, Канады, Аўстрыі, Германіі, Англіі, Бельгіі, ЗША, Францыі, Аргенціны прыбылі «зоркі першай велічыні» нашай дыяспары, якія пакінулі родную зямлю ў моц жорсткіх абставін і чые заслугі перад Бацькаўшчынай становяцца ўсё больш відавочнымі. Сярод іх Зора і Вітаўт Кіпелі, Янка Запруднік, Масей Сяднёў, Язэп Сажыч, Міхась Навумовіч, Павел Гуз, браты Алег і Уладзімір Шнэкі, Міхась Белямук, Алесь Сільвановіч, Юлія Андрусішына, Янка Міхалюк, Расціслаў Завістовіч, Янка Жучка, Раіса Жук-Грышкевіч і іншыя.

З Польшчы, Чэхіі, Прыбалтыкі, іншых рэспублік былога Саюза прыехалі Лявон Луцкевіч, Вячка Целеш, Альберт Мітэр, Хведар Нюнька, Валянцін Грыцкевіч, Вацлаў Жыдліцкі, Аляксандр Баршчэўскі, Аляксей Каўка, Мікола Ярчак, Ігар Смятанкін, Мікола Нікалаеў. Анатоль Кірвель, Ян Кабановіч, Яраслаў Ісаевіч, Анатоль Селівончык, Алесь Янчанка, Аляксей Анішчык і інш. Усе яны добра папрацавалі на братнюю лучнасць беларусаў, навязваючы з урадам РБ і суродзічамі дзелавыя і асабістыя кантакты, удзельнічаючы ў рабоце «круглых сталоў» і выпрацоўваючы разам адпаведныя рашэнні. Нагадаем, што з'езд быў арганізаваны ЗБС «Бацькаўшчына» (старшыня Рады Яўген Лецка), рабочую групу з'езда ўзначальвала Ганна Сурмач.

Фінансаванне форуму адбывалася за кошт дзяржавы (60 млн. руб.), «Бацькаўшчыны», а таксама ахвяраванняў прыватных асоб. Так, прадпрымальнік Анатоль Селівончык унёс у фонд з'езда 20 млн. руб., Алесь Ядчанка — 5 млн. руб., Белзнешэканамбанк Беларусі — 2 млн. руб., малое прадпрыемства «Асанна» — 100 тыс. руб., «Істок» — 25 тыс. руб., банкі «Дукат» і «Беларусь» — па 50 тыс. руб.

**Першы дзень.** Адкрываўся сход урачыста. На сцэне — эмблема з'езда з выявай Ефрасінні Полацкай і герб «Пагоня». У кошыках — кветкі. Ва ўрачыстай цішыні прагучала песня на словы Максіма Багдановіча «Пагоня». Адкрыў з'езд прэзідэнт «Бацькаўшчыны» народны пісьменнік **Васіль Быкаў.** Ён адзначыў, што Беларусь існуе ў разбэрсаным, раз'яднаным стане. Пануе разлад у палітыцы і эканоміцы, да чаго спрычыняюцца перажыткі таталітарнага рэжыму. Бо яшчэ нядаўна ў барацьбе з «нацыяналістамі» вогнішчы Купалля залівалі пажарныя машыны, у Траецкім прадмесці моладзь збівалі за яе жаданне адзначыць народны звычай гукання вясны, а міліцыя дубінкамі і балончыкамі з газам пракладала дарогу праз свята Дзядоў на Маскоўскіх могілках. А цяпер «5-я калона» ходзіць пад чырвонымі сцягамі і нарошчвае мускулы для новых боек за «правы чалавека», а мэта адна — імперская. Да ўсяго ж нашаму народу не хапае нацыянальнай свядомасці, а яму трэба ведаць, хто загінуў ад рук НКУСа і КДБ у гады класавага і нацыянальнага генацыду, ведаць тых, хто адлучыў нас ад нацыянальных святынь. Адзіны паратунак нацыі — аб'ядначца на глебе нацыянальнай ідэі. Дыяспара павінна аб'яднацца з метраполіяй, каб разам змагацца за дэмакратычную незалежную Беларусь. Бо новы грамадскі лад можна пабудаваць толькі высілкамі ўсёй нацыі.

Вітаючы з'езд, старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны народны паэт **Ніл Гілевіч** сказаў: «Галоўная ідэя з'езда — аб'ядноўчая. Гэта наша першая спроба сабрацца разам, з усяе зямной кулі, каб пагаварыць пра тыя супольныя задачы, што ўзніклі перад усімі намі ў лёсавызначальны для нашай Бацькаўшчыны час. Іх сэнс зводзіцца да наступнага: практычна забяспечыць тое, што абвешчана «Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі». Нам ёсць дзеля чаго аб'ядноўвацца, ёсць той найсвяцейшы алтар, каб на яго пакласці свае найдарагія ахвяраванні: лепшыя сілы душы і сэрца, а калі трэба, то і само жыццё. Гуртаванню нашых сіл перашкаджаюць не толькі аб'ектыўныя ўмовы, але і суб'ектыўныя, наша негатоўнасць да гэтага на ўзроўні псіхалогіі, свядомасці, палітычнай і агульнай культуры... Доўгі час клопат пра беларускае адраджэнне брала на сябе творчая і навуковая інтэлігенцыя. Сёння час мяняецца: да ідэі адраджэння далучаюцца людзі з усіх іншых сфер грамадскага жыцця, аднак задачай усіх задач застаецца: разбудзіць ад нацыянальнай спячкі ўвесь беларускі народ, павярнуць усіх грамадзян да вялікай ідэі адраджэння Беларусі, зрабіць так, каб кожны ўсвядоміў, што ад яго залежыць яе будучыня, дзеля якой ён і павінен працаваць.

На жаль, у нашым парламенце і ў іншых дзяржаўных і недзяржаўных структурах супроць лініі на станаўленне суверэннай, нейтральнай, бяз'ядзернай бе-

*(Працяг на с. 2—3).*

# ГАВОРАЦЬ БЕЛАРУСЫ СВЕТУ

## толькі для «Нашага слова»

*Аляксандр Баршчэўскі, загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, прафесар, ганаровы доктар БДУ (Польшча)*

— Для «Нашага слова» скажу напэўна. Ваша газета цікавая і вельмі нам патрэбная ў Польшчы для настаўнікаў, для якіх філалогія Варшаўскага універсітэта была адзінай такой беларускай пляцоўкай у свеце. Цяпер у нас узніклі беларускія філалагічныя факультэты ў Люблінскім і Беластоцкім універсітэтах, іншых навучальных установах. І ўсе гэтыя ўстановы патрабуюць вашага «Нашага слова». Адносна самога Сходу беларусаў думаю, што ён мае характар абсалютна гістарычны, важны і істотны хаця б з тае прычыны, што першы раз мае адбыцца такі форум, а яшчэ ёсць шанс адлажыць убок усялякія сваркі — ідэалагічныя, палітычныя — і паяднацца толькі на глебе нацыянальнай. Думаю, што з’езд павінен прычыніцца да ўзрастання нацыянальнай самасвядомасці, прэстыжу беларускай мовы і еднасці беларусаў незалежна ад таго, дзе яны жывуць ці то па сваёй волі, ці то па сваёй няволі. Дэлегацыя з Беласточчыны і Польшчы прыехала з такой надзеяй, што гэта спатканне дасць пачатак новаму этапу ў беларусістыцы.

**— Ці ёсць у Вас кантакты з беларусамі блізкага замежжа?**

— Сёння я сустракаўся з дэлегацыямі з Вільні, Малдовы, Далёкага Усходу і Сібіры. На з’ездзе беларусаў блізкага замежжа ў Менску я з імі пазнаёміўся. Тыя галасы, што прагучалі на тым спатканні, і сёння гучаць у маіх вушах. Скажам, вельмі запамяталася эмацыянальнае выступленне адной спадарыні з Малдовы, якая расказала пра трагічную сітуацыю ў Прыднястроўі, выступленні людзей з далёкага Сахаліна і Сібіры, якія страцілі мову, але не страцілі беларускай свядомасці. Так што сустрэча з гэтымі людзьмі для мяне сёння вельмі дарагая і блізкая, а спатканне з беларусамі далёкага замежжа дарагое і блізкае таксама, таму што я іх многіх ведаю, сустракаў у Англіі, у Амерыцы, а цяпер спатыкаю тут і размаўляю з імі, дыскутую, так што ў гэтым сэнсе мой прыезд на з’езд вельмі карысны.

*Вацлаў Жыдліцкі, даследчык і перакладчык беларускай літаратуры, прафесар Карлава універсітэта (Чэхія)*

**— Пачынаецца з’езд беларусаў свету. Чаго Вы ад яго чакаеце?**

— Думаю, што гэта першае такое мерапрыемства, якое дае магчымасць сабрацца ўсім беларусам свету і скантактавацца, зрабіць нешта для беларускай нацыі. Думаю, такі з’езд патрэбна праводзіць раз у некалькі гадоў, каб беларусы сустракаліся і абмяркоўвалі свае нацыянальныя і дзяржаўныя справы.

**— Што Вы скажаце пра асабісты ўклад у беларускае Адраджэнне?**

— Я езджу ў Беларусь з шасцідзесятага года. Тады некаторыя людзі называлі мяне дзіваком, што займаюся ў Чэхіі беларускай літаратурай. А зараз усё ж такі відаць ужо вынікі таго павольнага адраджэння, якое тады пачыналася. Калі гаварыць пра асабісты ўклад, то, можа, я таксама нешта для яго зрабіў, выступаючы за мяжой з дакладамі, даследуючы і перакладаючы беларускую літаратуру. І на Беларусі шмат разоў выступаў, ідэю нацыянальнага Адраджэння вашага народа падтрымліваў.

*Вітаўт Кіпель, дырэктар Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва (ЗША), ганаровы доктар ГрДУ*

**— Спадар Кіпель, Вы ўдзельнічалі ў пасяджэнні «круглага стала» з’езда па тэме «Беларуская культура». Якую думку Вы можаце вылучыць у сваім выступленні на ім як асноўную?**

— Мая асноўная думка такая, што трэба разглядаць культурную, палітычную дзейнасць эміграцыі як агульную частку агульнага працэсу адраджэння беларускага народа, працэсу палітычнага аднаўлення нацыі. І таму я падкрэсліваю, навязваючыся да сённяшняй гутаркі, што мы павінны ўвесці ў падручнікі, у даследаванні здабыткі асоб, якія дзейнічалі на эміграцыі. Прыкладам, Чэрскі, які быў высланы, 25 гадоў прасядзеў у Сібіры, потым атрымаў медаль Рускага геаграфічнага таварыства — вельмі вызначаны геолаг сусветнай велічыні, павінен быць адзначаны ў беларускіх падручніках. Дзеці павінны ведаць, што мы, беларусы, унеслі ў развіццё іншых краін, у дадзеным выпадку геалогіі Сібіры. Гэтаксама Дамейка ўклаў шмат сваіх ведаў у вывучэнне мінералогіі Паўднёвай Амерыкі. І не толькі мінералогіі. Я ўспомніў прозвішчы Качалава, Кіта, Пржавальскага, іншых навукоўцаў і дзеячаў культуры беларускага паходжання, якія ўзбагацілі сусветную культуру. Таму я палічыў патрэбным на пасяджэнні «круглага стала» разглядаць таксама культурніцкую дзейнасць дыяспары. Я разумею, што рабіць гэту справу зараз цяжка, але, тым не менш, гэтыя крокі павінны быць зроблены на Беларусі. Думаю, што добра было б заняцца гэтай справай якраз «Нашаму слову». «Наша слова» для нас у дыяспары, асабліва ў Амерыцы, было першай ластаўкай. Нешта шырокае, змененае (іншы падыход да беларускай культуры, да беларускага светапогляду) ідзе якраз праз гэтую газету. І таму думаю, што ў гэтым выпадку газета павінна быць зноў піянерам. Цудоўныя рубрыкі вы завялі па гісторыі (выпраўленне гістарычных памылак і інш.), а цяпер, мне здаецца, ваша новая рубрыка павінна асвятляць дасягненні беларусаў у свеце, уклад беларусаў у сусветную культуру.

**— Наколькі пазітыўнай з’явай стаўся, на Вашу думку, наш з’езд?**

— Пазітыўным у з’ездзе ёсць тое, што мы дыскутуем праблемы, балючыя сёння, і дыскутуем у вострай форме. Мы маем таксама добры ўклад у работу з’езда адміністрацыі. Мне вельмі спадабалася, як за «круглым сталом» выступалі крытыкі школьных падручнікаў і праграмаў, а ім вельмі тактоўна і слушна адказвала спадарыня Сухнат, прызнаўшы памылкі, але гэтаксама кажучы, чаму так сталася. Такая дыскусія, мне здаецца, мае велізарнае значэнне, і наогул з’езд мае тое значэнне, што мы бліжэй і бліжэй збліжаемся духоўна, выпрацоўваем супольную платформу, гаворым, чаго хоча беларуская думка, беларуская адраджэнская плынь, беларуская нацыянальная думаючая інтэлігенцыя.

**— Як Вы бачыце, афіцыйныя ўлады Рэспублікі Беларусь павярнуліся тварам да дыяспары. У з’ездзе ўдзельнічаюць прадстаўнікі ад урада самага высокага рангу. Што Вы скажаце на гэта?**

— Скажу, што на мяне гэта зрабіла добрае ўражанне. Дарэчы, з шмат якімі дзяржаўнымі дзеячамі Беларусі мы ўжо мелі дачыненне. Са спадаром Краўчанкам, напрыклад, і іншымі было добрае супрацоўніцтва. Спадзяюся, што наша супрацоўніцтва будзе працягвацца.

*Уладзімір Шнэк, дызайнер, старшыня згуртавання «Беларускі вызвольны фронт» (Аўстралія)*

**— Аўстралія — далёкая краіна. А наколькі блізкая эміграцыйным колам беларусаў ідэя нацыянальнага Адраджэння Бацькаўшчыны?**

— Мы засталіся патрыётамі Беларусі, і не трэба нават пытацца, як мы вам спрыяем. Каб маглі, то перарваліся б папалам, каб вам дапамагчы.

**— Ці спадабалася Вам у нас?**

— Вельмі спадабалася. Цікава праходзілі з’езд і пазаз’ездаўскія сустрэчы, а таксама культурныя імпрэзы. Мы пабылі ў Навагрудку і на Купаллі над Нёманам. Бачым, што робіцца добрая справа. Менск мяняе камуністычныя назвы вуліц на самабытныя. Мяне 49 гадоў не было на радзіме, у Слуцку, і ўсё, што робіцца ў вас, мяне вельмі хвалюе.

**— Раскажыце аб сабе. Як склаўся Ваш лёс у Аўстраліі? Ці захаваўся беларускі дух у сям’і?**

— Я працаваў дызайнерам у электрычным упраўленні штата Вікторыя, цяпер на пенсіі і займаюся беларускімі справамі. У Аўстраліі жыве шмат грамадска актыўных беларусаў. Яны аб’яднаны ў згуртаванні. Федэральную Раду беларусаў на чале з Беларускім Цэнтральным Камітэтам узначальвае Павел Гуз. Прадстаўніком ад гэтай Рады прыехаў на з’езд мой брат Алег, а я прыехаў ад сваёй арганізацыі — БВФ. У сям’і ўсё захавалася — і мова і традыцыі. Збіраемся дома сям’ёй — толькі па-беларуску гаворым.

**— Як падтрымліваеце сувязь з Бацькаўшчынай?**

— Пераважна цераз перапіску. Я перапісваюся з Беларускім згуртаваннем вайскоўцаў, з случчанінам Рыгорам Родчанкам і яшчэ шмат з кім. Вашы літаратурныя гурткі папрасілі даслаць ім мае кнігі.

**— Якія кнігі?**

— Гістарычную аповесць «Драбы», а таксама «Аброк Кіеву» і «Братчына».

**— Пад псеўданімам Ул. Случанскі? Вашы кнігі маем у сваёй рэдакцыі. А цяпер скажыце, ці выпісваеце «Наша слова»?**

— Не выпісваю, але чытаю. Газету нам дасылаюць на імя Паўла Гуза.

**Гутарыла Ірына КРЭНЬ.**

---

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1.*

ларускай дзяржавы выступаюць даўнія і асатанелыя ворагі беларушчыны, сярод якіх і некаторыя дэмакраты — прыхільнікі і абаронцы эканамічных рэформ. Гэта значыць, што па-ранейшаму беларуская нацыянальная ідэя яшчэ не стала аб’ядначай сілай, і ў гэтым наша найвялікшая бяда. Наша дзяржава яшчэ не стала ў поўным сэнсе слова беларускай дзяржавай, нам яшчэ належыць такой яе зрабіць. І гэта стане тады, калі беларускімі пачуюцца наш парламент і ўрад. Толькі тады, калі паперы з Вярхоўнай Рады і Рады Міністраў пойдуць на беларускай мове, мы можам шчасліва сказаць: «Пачалося! Ave, Беларусь!»

## ВЯЛІКІ

Просіцца на вусны параўнанне і вобраз. Ніколі гэты дом, наш Вялікі тэатр, не поўніўся так роднымі гукамі, словамі і галасамі, як сёння. Не ведаю, ці судзіць мне доля дажыць, але буду вельмі рад аднойчы пачуць, што ўся Беларусь, як гэты дом сёння, поўніцца роднымі гукамі і галасамі. Трэба зрабіць усё, каб антыбеларускія сілы пацярпелі ў Беларусі крах».

Зала шчыра вітала з’яўленне на трыбуне **Станіслава Шушкевіча**, які сказаў: «Упершыню сабраліся беларусы з усяго свету на сваё свята, і ніхто не перашкодзіў ім гэта зрабіць». Прамоўца адзначыў, што трансфармацыя таталітарнай дзяржавы ў дэмакратычную адбываецца цяжка. Гэтаму працэсу супроцьстаіць на Беларусі камуністычная ідэя, насуперак якой мы павінны паставіць сваю ідэю, дзеля чаго трэба зрабіць усё магчымае. Спадар Шушкевіч заклікаў не даваць волі злачынным рукам, што цягнуцца да ўлады, супрацоўнічаць з беларусамі дыяспары, выхоўваць нацыянальную свядомасць у суайчыннікаў. «Памяркоўнасць, стрыманасць, работа галавы напоўніць рэальным зместам тое, чаго мы дасягнулі»,— заключыў С. Шушкевіч.

Асноўны даклад аб сусветнай беларускай супольнасці («Беларуская ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці») зрабіў віцэ-прэзідэнт АН Беларусі **Радзім Гарэцкі**, ад урада РБ выступіў **Міхась Дзямчук**, ад ЗБС «Бацькаўшчына» — **Яўген Лецка**. З’езд віталі многія дэлегаты і госці: рэдактар нью-йоркскай газеты «Беларусь» Янка Запруднік, старшыня Згуртавання беларусаў Канады Мікола Ганько, старшыня БНФ Зянон Пазьняк, старшыня ЗБВ Мікола Статкевіч, прадстаўнік Арганізацыі Аб’яднаных Нацый Мэцью Каханэ, дырэктар беларускай рэдакцыі радыё «Свабода» Вячка Станкевіч, іншыя асобы. У канцы дня адбылася прэс-канферэнцыя для журналістаў, у якой прынялі ўдзел ад дыяспары Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік, а ад урада Рэспублікі Беларусь міністры Пётр Краўчанка і Анатоль Бутэвіч. Быў адзначаны ўклад замежных суродзічаў у мацаванне кантактаў Беларусі — эканамічных, палітычных, культурных — з краінамі Захаду і іх дапамога пацярпелым ад чарнобыльскай катастрофы. Спадар Бутэвіч адзначыў, што канструктыўны характар гаворкі на з’ездзе дапаможа выявіць духоўны патэнцыял нацыі і прынясе карысць.

**Другі дзень.** 9 ліпеня адбыліся пасяджэнні «круглых сталоў» па тэмах: «Беларуская дзяржаўнасць» (вядучыя Аляксей Каўка, Юры Туронак, Валянцін Голубеў), «Беларуская гаспадарка і прадпрымальніцтва» (вядучы Генадзь Лыч), «Беларуская дыяспара» (вядучы Янка Запруднік), «Беларуская культура» (вядучыя У. Конан і Вітаўт Кіпель), «Праблемы Беларусі пасля чарнобыльскай катастрофы» (вядучая Тамара Белавокая). У гэты дзень адбылося таксама адкрыццё выставы «Беларусы ў свеце» і мемарыяльнай дошкі ў гонар Максіма Гарэцкага на будынку былога Інбелкульта. У другой палове дня беларусы замежжа сустрэліся ў штаб-кватэры БНФ «Адраджэньне» з кіраўніцтвам Фронту, а таксама ў Вярхоўным Савеце з прадстаўнікамі апазіцыі.

**Трэці дзень.** Зноў жа выступалі дэлегаты і госці з’езда. Сярод іх старшыня Беларускай сялянскай партыі Яўген Лугін, старшыня Згуртавання беларусаў Сіднея

# СХОД БЕЛАРУСАЎ

Міхась Лужынскі, аўтар эмблемы з'езда мастак Эдуард Агуновіч, старшыня Сусветнага згуртавання яўрэяў Беларусі Якаў Гутман, доктар эканамічных навук АН РБ Леанід Лыч, благачынны Сакольскай акругі і прадстаўнік Яго Праасвяшчэнства Савы ў Польшчы айцец Уладзімір Місяюк, айцец Георгій Латушка, які зачытаў пасланне Мітрапаліта Філарэта з'езду «У адзінстве і любові Хрыстовай наша выратаванне», старшыня Згуртавання беларусаў Германіі Мікола Іваноў, народны дэпутат РБ Юрась Беленькі, артыстка Таццяна Мархель, старшыня Згуртавання беларусаў Бельгіі Янка Жучка, даследчыца і перакладчыца беларускай літаратуры ў Вялікай Брытаніі англічанка Вера Рыч, старшыня Хаўруса беларусаў Францыі Міхась Навумовіч, старшыня Кангрэса беларусаў Амерыкі Расціслаў Завістовіч, старшыня Згуртавання беларусаў Летувы Лявон Луцкевіч, старшыня Каардынацыйнай Рады Канады Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня Беларускага культурна-грамадскага таварыства Беласточчыны Аляксандр Баршчэўскі. Ад беларусаў Сібіры, Комі, Пецярбурга, Масквы выступілі Альберт Мітэр, Георгій Усціloўскі, Валянцін Грыцкевіч, Мікола Мікалаеў, Алесь Каўка і іншыя. Ад ТБМ імя Ф. Скарыны браў слова дырэктар Гудзевіцкага музея Алесь Белакоз, ад грэка-каталікоў Ян Матусевіч.

Затым адбылося падагульненне работы «круглых сталоў» і прыняцце выніковых дакументаў, адзін з якіх — «Заява З'езда беларусаў свету па вайсковаму пытанню» ўжо апублікавана ў «Народнай газеце» ад 15 ліпеня. У наладжанай пасля з'езда прэс-канферэнцыі выступілі Радзім Гарэцкі, Міхась Дзямчук, Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік, Ганна Сурмач. На з'ездзе прагучалі прапановы зрабіць дзяржаўнымі святамі 25 Сакавіка і Купалле. Выступаючы на прэс-канферэнцыі, сп. Гарэцкі падкрэсліў, што на з'ездзе беларусы аб'ядналіся і згуртаваліся. Але гэта згуртаванне не толькі беларусаў па нацыянальнасці, а ўсіх людзей, што жывуць на нашай зямлі, а таксама тых грамадзян замежжа, хто прызнае незалежнасць Беларусі і дапамагае яе адраджэнню.

Некалькі слоў пра танальнасць выступленняў прадстаўнікоў урада. Яны дыхалі згодай, памяркоўнасцю, жаданнем паразумецца з суродзічамі і зразумець іх. Нашы міністры ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы і выпрацоўцы канструктыўных дакументаў з'езда, што складаюць праграму супрацоўніцтва з дыяспарай, раскрываюць адносіны да сучаснай сітуацыі ў рэспубліцы, клопат аб суайчынніках блізкага замежжа, якія апынуліся ў трагічных абставінах. Сп. Дзямчук падкрэсліў, што беларускі ўрад усяляк дапамагаў правесці з'езд і не ўмешваўся ў працэс яго падрыхтоўкі «Бацькаўшчынай». Сёння ўрад вітае з'езд і прымае ўдзел у сумесным абмеркаванні праблем, якія тычацца лёсу народа і яго дзяржаўнасці, вітае ідэю дзелавога і культурнага супрацоўніцтва з дыяспарай. Сп. Гайсёнак запэўніў, што «стварэнне нацыянальнай па зместу і мове школы для Міністэрства адукацыі з'яўляецца задачай нумар адзін». Сп. Краўчанка выказаў асабістую радасць з нагоды з'езда. Ён адзначыў, што сёння Беларусь яшчэ не гатова да эканамічнай інтэграцыі з Еўропай. Таму на бліжэйшыя 10 гадоў яна асуджана на эканамічны саюз з Расіяй, ад якой атрымлівае нафту. Падкрэсліў, што нам неабходна бараніць інтарэсы беларускіх меншасцей у краінах былога Саюза. Так, напрыклад, у Прыбалтыцы і Расіі няма беларускіх школ і ўвогуле ўмоў для жыццядзейнасці нацыянальных дыяспар. Міністр заверыў з'езд, што беларускі ўрад зробіць усё магчымае дзеля таго, каб беларуская мова заставалася адзінай дзяржаўнай у рэспубліцы і выказаў надзею, што яшчэ «гэты Вярхоўны Савет прыме новую канстытуцыю. Мы за трансфармацыю ў Еўропу і за дэмакратыю», — сказаў сп. Краўчанка.

Пачаўшыся як мерапрыемства культурнае, з'езд набыў аспект і палітычны. Іначай і быць не магло, бо культура заўсёды звязана з палітыкай. Дыяспара выказала згоду супрацоўнічаць з урадам РБ, дапамагаць у наладжванні ўсемагчымых кантактаў з краінамі свету, але пры ўмове, што гэта пойдзе на карысць дэмакратычнаму ладу, а не падмаляванаму варыянту БССР. На з'ездзе прагучалі словы асуджэння старых парадкаў, якія яшчэ трымаюцца на Беларусі. Сп. Мітэр сказаў, што да гэтага часу Беларусь успрымаецца як «камуністычны запаведнік» у былым СССР. Нават чукчы, з якіх раней смяяліся, цяпер смяюцца з нас. Многія выступленні дэлегатаў з'езда ўяўляюць вялікую цікавасць, іх варта апублікаваць разам з асноўнымі дакументамі.

Для тых, хто на з'ездзе не быў, скажу, што гаворка на ім ішла ў некалькіх напрамках. Далёкая дыяспара вяла дыскусію па пытаннях адраджэння беларускай дзяржаўнасці, мовы і культуры народа, які ў моц гістарычных абставін страціў нацыянальную свядомасць, уласны гонар і мову. Беларусы блізкага замежжа вынеслі на форум свае беды і крыўды, прасілі дапамогі ў суайчыннікаў. Беларусы метраполіі высвятлялі сітуацыю, якая склалася ва ўрадавых структурах і Вярхоўным Савеце, у войску, у галіне культуры. З'езд атрымаў праўдзівую інфармацыю па рэспубліцы. Гэтаму паспрыяла і трэцяя Усебеларуская палітычная канферэнцыя, якая адбылася 3 ліпеня ў Менску і на якой прысутнічалі дэлегаты ад замежных суполак, а таксама выступленні на з'ездзе Зянона Пазьняка, Міколы Статкевіч і іншых. Прадстаўніку міністра абароны сход не даў выказацца, паказаўшы такім чынам, што ён яшчэ больш радыкальны за Зянона Пазьняка.

Такім чынам, Першы (аб'яднаўчы) з'езд беларусаў свету адбыўся. Людзей аб'яднала нацыянальная ідэя, а не якая-небудзь іншая. Мэта агульных высілкаў: вызваленне Бацькаўшчыны ад таталітарнага рэжыму, аднаўленне рэальнай дзяржаўнай незалежнасці, пабудова дэмакратычнага ладу жыцця, культурнае адраджэнне.

**Ірына КРЭНЬ.**

# НА ШЛЯХУ ДА АБ'ЯДНАННЯ

9 ліпеня ў Тэатры юнага гледача разгарнулася шырокая дыскусія па праблемах беларускай дыяспары. У пасяджэнні «круглага стала» ўзялі ўдзел прадстаўнікі далёкага і блізкага замежжа. Кола ўзнятых тут пытанняў было даволі шырокім. На пачатку пасяджэння ўдзельнікі заслухалі праект дакумента «Зварот да парламента і ўрада Рэспублікі Беларусь», прапанаваны ўправай ЗБС «Бацькаўшчына». Прадстаўнікі беларускіх суполак у краінах Балтыі, Кыргызстане, Украіне, Расійскай Федэрацыі, Польшчы, выказалі шмат слушных заўваг па яго змесце, унеслі неабходныя папраўкі і дапаўненні. Для канчатковай дапрацоўкі дакумента была выдзелена працоўная група ў складзе чатырох чалавек.

На пасяджэнні «круглага стала» выступіў д-р Янка Запруднік з Нью-Йорка. На яго думку, мастацкія вырабы беларускіх народных майстроў будуць мець добры попыт у Злучаных Штатах Амерыкі. Таму неабходна развіваць прадпрымальніцкую дзейнасць у Беларусі. Урад рэспублікі павінен для гэтага ствараць усе ўмовы. Трэба пачынаць выраб добрых тавараў і шукаць шляхі іх збыту на Захадзе. Заходняя дыяспара ўсяляк будзе дапамагаць беларускім прадпрымальнікам.

Па праблемах блізкага замежжа выступіў Валянцін Грыцкевіч з Санкт-Пецярбурга. Ён выказаў думку аб неабходнасці ўзнаўляць эканамічныя сувязі паміж рэспублікамі, расказаў пра тыя цяжкасці, якія сустракаюцца ў рабоце беларускіх згуртаванняў за межамі бацькаўшчыны. Пятрусь Капчык з Украіны рашуча выступіў супраць кампаніі за двухмоўе ў Беларусі. Сяргей Федарэнчык з Кіева засяродзіў увагу прысутных на праблемах культурна-інфармацыйнага абмену паміж Украінай і Беларуссю.

Адам Мальдзіс, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны, старшыня міжнароднай арганізацыі беларусістаў паведаміў удзельнікам «круглага стала» пра стварэнне ў Цэнтры банка інфармацыі і заклікаў іх да супрацоўніцтва. Ён расказаў пра энцыклапедычны даведнік пад назвай «Беларускае замежжа», які рыхтуецца на падставе банка інфармацыі. Найперш у даведнік будуць уключаны артыкулы пра беларускую дыяспару ў самых розных краінах блізкага і далёкага замежжа, змешчана інфармацыя пра ўсе беларускія арганізацыі, аб'яднанні, таварыствы, установы за мяжой, перыёдыку, тэатральна-мастацкія калектывы і літаратурныя аб'яднанні беларускага замежжа. Алесь Саўчэня, супрацоўнік адзінай у Беларусі лабараторыі этнічнай геаграфіі Менскага педінстытута, пазнаёміў прысутных са зместам этнічна-дэмаграфічнага атласа «Беларусы», які рыхтуецца да друку. Атлас змяшчае каля 200 карт, табліц і ўключае наступныя раздзелы: агульныя звесткі, рассяленне беларускага народа, яго дэмаграфічная характарыстыка, беларуская сям'я, эміграцыйны рух, сацыяльная, прафесійная і культурна-адукацыйная характарыстыка беларускага народа, беларуская дыяспара.

Міністр адукацыі Віктар Гайсёнак у сваім выступленні падкрэсліў, што аб'яднаць усіх беларусаў свету магчыма перш за ўсё на нацыянальна-культурнай глебе. Ён паведаміў пра стварэнне каардынацыйнага камітэта пры Савеце Міністраў для вырашэння ўсіх праблем, звязаных з жыццём нашай дыяспары, усталяванне цесных кантактаў з беларускімі аб'яднаннямі за мяжой.

Прафесар Анатоль Грыцкевіч з Менска спыніўся на праблеме сувязей Беларусі з беларускімі суполкамі ў розных краінах свету і дзейнасці саміх беларускіх суполак за мяжой.

На пасяджэнні выступілі таксама міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч, першы намеснік міністра культуры Уладзімір Гілеп, старшыня фонда імя Льва Сапегі сп. Куневіч, Алесь Глод з Масквы, Ігар Мацыеўскі з Санкт-Пецярбурга, Галіна Сівалава з Вільні, Вера Рамук з Чыкага і іншыя.

**Л. Б.**

# БЭЗ: БЕЛАРУСКА-ЭСТОНСКАЕ ЗГУРТАВАННЕ

**(Гутарка з сябрам БЭЗа мастачкай Маргарытай Іванаўнай Астраумавай)**

**— Маргарыта Іванаўна, Вам пашчасціла быць дэлегатам І з'езда беларусаў свету. Чаго Вы ад яго чакаеце?**

— На маю думку, калі Радзіма павярнулася да нас тварам, прымае як сваіх дзяцей, то неабходна выпрацаваць і такі закон, які б дазволіў беларусам, што жывуць за межамі Беларусі, узяць і беларускае грамадзянства. Сябры нашага згуртавання кажуць: калі не атрымаем эстонскага грамадзянства, расійскае браць не будзем. Бо мы беларусы. У нас ёсць свая Радзіма. Надышоў той момант, калі трэба добра ведаць, хто ты, грамадзянін якой дзяржавы. Добра, каб было вырашана пытанне аб двайным грамадзянстве. Я грамадзянка Эстоніі, але вельмі хацела б быць і грамадзянкай Беларусі.

**— Як даўно Вы жывяце ў Эстоніі?**

— Трыццаць гадоў. Я трапіла ў Эстонію пасля заканчэння Віцебскага педінстытута. Працую дырэктарам дзіцячай мастацкай школы. Я не толькі дэлегат з'езда, але і ўдзельнік выставы «Жыве Беларусь!».

**— Скажыце колькі слоў пра Ваша згуртаванне. Як яно ўзнікла?**

— Наша БЭЗ налічвае каля 100 чалавек. Але актыўна ўдзельнічае ў культурных мерапрыемствах значна менш, каля 30 чалавек. На іх практычна трымаецца наша згуртаванне. Вясной, калі зацвітае бэз, мы збіраемся і праводзім свята нашага аб'яднання, якое ўзнікла каля 4,5 гадоў назад. Не адразу ўсё добра атрымоўвалася. Быў такі момант, што хацелі распусціць згуртаванне. Але прайшоў нейкі час, і цяпер мы добра разумеем, што неабходна падтрымліваць адзін аднаго. У нашым згуртаванні мы атрымліваем тое, што ў другім асяроддзі атрымаць не можам: спяваем беларускія песні, размаўляем на роднай мове, абменьваемся навінамі з Радзімы.

**— Дзе вы збіраецеся?**

— Паколькі свайго памяшкання не маем, збіраемся ў маёй мастацкай школе, а калі нам патрэбна зала, арандуем яе ў горадзе. Калі праводзілі вечарыну «75-я ўгодкі незалежнасці Беларусі», арандавалі вялікую залу ў Палацы культуры. Там сабралася каля 100 чалавек, і адбылася цудоўная вечарына.

**— Ці далучаеце вы сваіх дзяцей да дзейнасці згуртавання?**

— Мы выхоўваем дзяцей у духу беларускасці, каб яны помнілі, што беларусы. У гэтым годзе я зрабіла конкурс малюнкаў дзяцей сяброў нашага згуртавання. 25 малюнкаў мы даслалі ў Саўт-Рывер (ЗША) на выставу «Дзеці дзецям», і атрыманыя з іх продажу грошы пайшлі на лекі і цацкі для дзяцей — ахвяраў Чарнобыля. Гэтую працу будзем працягваць. Ёсць думка зрабіць нейкі дзіцячы ансамбль.

**— Якія ў Вас сувязі з Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны ў Менску?**

— Мы зарэгістраваны ў рэспубліканскай Радзе ТБМ як суполка, але цесных кантактаў у нас не атрмоўваецца. Добра сябруем са «Світанкам» з Латвіі, з беларускай сябрынай з Літвы. Былі ў іх у гасцях. Лявон Луцкевіч правёў экскурсію па Рызе, паказаў нам цудоўныя мясціны.

**— Як пачуваюць сябе беларусы ў Эстоніі?**

— Гэта складанае пытанне. Гаворка павінна ісці не пра тое, як мы там чуемся, а наколькі ўсё гэта патрэбна перш за ўсё для эстонцаў, бо гэта іх краіна, іх зямля. Радыё, тэлебачанне, сродкі расійскай прапаганды падаюць нашы абставіны не зусім так, як гэта ёсць на самай справе. Шмат хваляванняў сярод рускамоўнага насельніцтва выклікае «Закон аб іншаземных грамадзянах». Трэба вывучыць эстонскую мову, каб атрымаць эстонскае грамадзянства. Калі Савецкая армія акупавала Эстонію, ніхто ў эстонцаў не пытаў, хочуць яны вучыць расійскую мову ці не, а ўсіх прымусілі яе вывучаць. А калі цяпер трэба ведаць эстонскую мову, то гэта выклікае абурэнне з боку рускамоўнага насельніцтва.

**— Дзякую, Маргарыта Іванаўна, за гутарку. Плённай Вам працы ў БЭЗе на карысць адраджэння нашай Бацькаўшчыны.**

**Гутарыла Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

Айген КАЛУБОВІЧ

# «Свабода, свабода і яшчэ раз свабода!»

*(Раздзелы з кнігі «На крыжовай дарозе»)*

*Працяг.*

*Пачатак у №№ 12, 13.*

## *Пісьменнікі*

Апрача названых ужо **Н. Чарнушэвіча** (б. кіраўніка развязанай літаратурнай арганізацыі «Пробліск»), **В. Ластоўскага** (які не належаў да ніякіх літаратурных арганізацый), сяброў «Полымя» **Назара Бываеўскага (Я. Дылы)** і **А. Дудара (Дайлідовіча)**, другі раз арыштаванага ў Смаленску і прывезенага ў менскую «амерыканку»,—

былыя «нашаніўцы» паэт **Алесь Гурло** («Полымя») і празаік **Максім Гарэцкі** — аўтар аднаго з ранейшых расейска-беларускіх слоўнікаў (у сааўтарстве з братам Гаўрылам — 1918 г., Смаленск), папулярнага падручніка «Гісторыі беларускае літаратуры» (1920 г., Вільня) і іншых гісторыка-літаратурных прац і літаратурных хрэстаматый (у 1923 г. ён пераехаў з Летувы ў БССР і не належаў да ніякіх літаратурных арганізацый);

паэты «Узвышша» **Язэп Пушча** (Плашчынскі), **Уладзімір Жылка** (у 1926 г. вярнуўся з эміграцыі, з Прагі Чэшскае);

паэт і драматург «Полымя» **Міхайла Грамыка;** сябра Інбелкульта, дац. геалогіі БДУ, аўтар падручнікаў «Пачатковая геаграфія» (1923 г.), «Крышталаграфія» (1926 г.) і «Мінералогія» (1926 г.);

драматургі **Васіль Шашалевіч** («Узвышша») і **Алесь Ляжневіч** («Полымя»);

празаікі БелАППА **Сымон Хурсік** і **Алесь Гародня** (Функ).

## НАВУКОЎЦЫ

### *гісторыі Беларусі —*

Акад. **Уладзімір Пічэта,** былы лектар Беларускага народнага універсітэта (1918 г.) і старшыня Беларускага навукова-культурнага таварыства (1920 г.) у Маскве. Выкладчык БДУ (1921—30 гг.). Прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі БДУ і ягоны першы рэктар (1921—29 гг.). Вядомы гісторык Беларусі, аўтар шматлікіх навуковых публікацый (і «Гісторыі Беларусі», 1924 г.), першы «заслужаны прафесар БССР» (1926 г.).

**Праф. Змітро Даўгяла.** Гісторык, крыніцазнаўца, археограф, палеограф, літаратуравед і першы беларускі геральдазнаўца. Былы сябра Маскоўскай і старшыня Віленскай археаграфічных камісій (пач. XX ст.), сакратар Археаграфічнай камісіі Інбелкульта і БелАН. Выкладчык БДУ. Аўтар шматлікіх навуковых прац з канца XIX ст. і публікатар беларускіх гістарычных дакументаў у пачатку 1900-х і ў 1920-х гг. (Працы ягоныя друкаваліся і па ягоным арыштце: за межамі — «Літоўская Мэтрыка» (Рыга, 1933 г.); у БССР — «Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах», т. I, IX—XVIII стст., 1936 г., уложаная перад арыштам разам з акад. В. Шчарбаковым і дац. Кернажыцкім).

**Праф. П. Харламповіч**, археолаг і нумізмат. Навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея ў Менску, выкладчык БДУ. Першы беларускі даследчык манетных скарбаў Беларусі, заснавальнік сучаснай беларускай нумізматыкі. Аўтар прац «Манэтныя скарбы, знойдзеныя ў Беларусі, у зборах Беларускага Дзяржаўнага музэю» (1927 г.) і інш.

**Дац. Міхал Мялешка**, гісторык і археограф. Заступнік загадчыка Цэнтраархіва БССР. Сябра Інбелкульта, выкладчык БДУ.

**Археолаг Сяргей Дубенскі.** Сябра Інбелкульта, навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея ў Менску. Даследчык курганаў XI—XIII стст. на Меншчыне, Магілёўшчыне і Віцебшчыне.

**Дац. Андрэй Бурдзейка,** заступнік дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея ў Менску, выкладчык БДУ. Аўтар прац з сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі.

**Дац. Тодар Забела,** навуковы супрацоўнік Цэнтральнага гістарычнага архіва БССР у Магілёве. Даследчык аграрнай гісторыі Беларусі эпохі феадалізму.

**Мікола Улашчык,** малады археолаг і гісторык, навуковы супрацоўнік Гістарычнага архіва ў Менску.

### *беларускага мовазнаўства —*

**Акад. Браніслаў Эпімах-Шыпіла.** Сучаснік В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каліноўскага і Ф. Багушэвіча. Выкладчык лацінскае і грэцкае моў у Пецярбургскай каталіцкай духоўнай акадэміі. Галава беларускае калоніі ў Пецярбургу ў канцы XIX ст.— 1916 г. У 1889 г. улажыў рукапісную хрэстаматыю беларускае літаратуры. Ініцыятар і галоўны кіраўнік Беларускага выдавецкага таварыства «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Пецярбургу ў 1906—14 гг. Старшыня камісіі па складанні слоўніка жывое беларускае мовы ў Інбелкульце і БелАН.

**Дац. Язэп Воўк-Левановіч.** Сябра Інбелкульта і навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры БелАН. Выкладчык БДУ. Узначальваў укладанне гістарычнага слоўніка беларускае мовы. Аўтар даследавання мовы выданняў Ф. Скарыны, «Лекцый па гісторыі беларускае мовы. Уступ і Фанетыка» (1927 г.) і іншых прац.

**Дац. Анатоль Багдановіч.** Сябра Інбелкульта і навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры БелАН (1927—29 гг.). Выкладчык беларускае мовы БДУ. Аўтар падручніка «Беларуская мова» (1927 г.).

**Дац. Платон Жарскі,** выкладчык беларускае мовы ў БДУ.

**Дац. Мікола Байкоў,** мовазнаўца і літаратуравед. Вучоны сакратар слоўнікавай камісіі Інбелкульта (1922—28 гг.) і Інстытута мовы і літаратуры БелАН (1929—30 гг.). Даследчык чужаземных слоў у беларускай мове. Улажыў разам з М. Гарэцкім, С. Некрашэвічам і А. Бараноўскім 4 беларускія слоўнікі (1924—28 гг.). Як літаратурны крытык «Полымя» (Мікола Крывіч) даследаваў творчасць Я. Коласа, Я. Купалы, выдаў кніжку літаратурна-крытычных артыкулаў «На літаратурныя тэмы» (1929 г.).

### *беларускія літаратуразнаўцы —*

**Дац. Уладзіслаў Дзяржынскі** (Чаржынскі), літаратуравед і лексікограф. Першы навуковы сакратар Інбелкульта. Літаратурны крытык час. «Полымя». Разам з М. Гарэцкім і П. Караваем улажыў школьны падручнік «Выпісы з беларускае літаратуры» (1925 г.). Аўтар слоўніка гісторыка-грамадазнаўчых тэрмінаў.

**Др. Павел Каравай (Каравайчык), (Любецкі).** Выкладчык БДУ, літаратурны крытык і фалькларыст.

**Адам Бабарэка,** літаратурны крытык і рэдактар «Узвышша», асістэнт катэдры гісторыі беларускае літаратуры БДУ (1928—30 гг.). Аўтар кніжкі «Апавяданні» (1925 г.).

Літаратурныя крытыкі «Узвышша» **Антон Адамовіч і Фелікс Купцэвіч.**

### *беларускае этнаграфіі і фалькларыстыкі —*

**Дац. Альгерд Шлюбскі.** Сябра Інбелкульта, навуковы супрацоўнік БелАН. Этнограф, фалькларыст і бібліёграф. Аўтар шэрагу навуковых публікацый, галоўныя з якіх «Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны», ч. 1 і 2 (1927 і 1928 гг.), «Матэрыялы да беларускае бібліяграфіі, ч. IV, Этнаграфія» (1927 г.), за мяжою, у Летуве — «Доля кнігасховаў і архіваў зямель крыўскіх і былога Вялікага Княства Літоўскага» (1925 г., Коўна).

**Дац. Мікола Касяровіч,** інспектар Наркамасветы БССР, Слуцкага і Віцебскага акруговых аддзелаў асветы (1921—25 гг.), навуковы сакратар і фактычны кіраўнік ЦБ краязнаўства пры Інбелкульце і БелАН (1926—30 гг.). Этнограф, гісторык беларускага мастацтва і лексікограф; аўтар кніг «Беларуская архітэктура» (1925 г., Віцебск), «Краязнаўства» (1929 г., Менск), «Беларуска-расейскі слоўнічак» (1925 г., Віцебск), «Віцебскі краёвы слоўнік» (1927 г., Віцебск) і іншых прац. Публікатар невядомых твораў К. Каганца.

### *беларускага мастацтвазнаўства —*

**Дац. Міколай Шчакаціхін.** Сябра Інбелкульта, навуковы супрацоўнік БелАН (1925—30 гг.). Выкладчык БДУ (1923—30 гг.). Аўтар шматлікіх публікацый з гісторыі беларускага мастацтва. Галоўныя: «Васіль Вашчанка — магілёўскі гравёр канца XVII—пачатку XVIII стст.» (1925 г.), «Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Ф. Скарыны» (Зб. «400-лецце беларускага друку», 1926 г.) і «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва», т. I, XI—XVI стст., 1928 г.

### *геаграфіі Беларусі —*

**Праф. Мікола Азбукін.** Сябра Інбелкульта і навуковы супрацоўнік БелАН. Адзін з арганізатараў краязнаўства ў БССР і сябра ЦБ краязнаўства. Выкладчык БДУ. Аўтар (разам з А. Смолічам) першае геаграфіі Беларусі і іншых кніг і публікацый.

**Акад. Гаўрыла Гарэцкі**, брат Максіма. Загадчык катэдры эканамічнай геаграфіі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (1925—27 гг.), дырэктар Беларускага навукова-даследчага Інстытута сельскай і лясной гаспадаркі пры СНК БССР (1927—30 гг.). Публікаваў даследаванні з эканамічнай геаграфіі Беларусі, сельскай і лясной гаспадаркі; выдаў кнігі «Народны прыбытак Беларусі» (1926 г.) і «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы» (1928 г.).

### *сельскагаспадарчых навук —*

Вучоныя аграномы БелАН, Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках і Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі пры СНК БССР.

**Праф. Алесь Скандракоў**, сябра прэзідыума краязнаўчай секцыі Інбелкульта і ЦБ краязнаўства;

**Дац. Кіслякоў**, сябра рады Аддзела прыроды і гаспадаркі Беларусі ў Інбелкульце;

**Дац. Мікола Ярашчук; Дац. М. Кіркевіч.**

Першыя тры — блізкія супрацоўнікі З. Прышчэпава.

**Праф. Аляксей Макарэўскі,** загадчык катэдры паталогіі і тэрапіі ўнутраных хвароб у жывёл Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Аўтар кніг «Кароста ў жывёл і птушак» (1929 г., Менск), «Запаленне лёгкіх у рагатай жывёлы» (1930 г., Менск), «Сухоты свойскае жывёлы» (1930 г., Менск). Былы актыўны сябра партыі «Народная воля» ў XIX ст.

**Інжынер Чэслаў Родзевіч.** Сябра прэзідыума сельскагаспадарчай секцыі Інбелкульта (разам з З. Прышчэпавым і А. Смолічам). Былы артыст беларускага тэатра І. Буйніцкага (1907—13 гг.), сябра «Першага таварыства беларускае драмы і камедыі» (1917 г., Менск), арганізатар «Таварыства прыхільнікаў беларускага мастацтва» ў Петраградзе (1918 г.).

**Дац. Адам Міцкевіч,** выкладчык БДУ.

*Працяг будзе.*

**Аўген Калубовіч (справа) — старшыня Беларускага культурнага згуртавання ў Менску (1944 г.) разам з сябрамі — кампазітарам Міколам Куліковічам-Шчагловым, паэткай Наталляй Арсеневай і спеваком Селех-Качанскім.**

## Вучымся!

### Да 70-годдзя першадруку паэмы

Над раскрытай кнігай

Лей МІРАЧЫЦКІ

# Невядомая «Новая зямля»

## 1. На чужыне

*Дзе ж у свеце, ройным і шумлівым,*
*між вянкамі іскрыстымі зор,*
*ёсць такія ўшчэ, як нашы, нівы,*
*ёсць такая ціша і прастор?*
**Наталля АРСЕННЕВА.**

У свядомасць беларусаў паэма Якуба Коласа «Новая зямля» ўвайшла як вялікі нацыянальны твор, прасякнуты нязгаснай любоўю да роднай старонкі і свайго народа, яго багатай духоўнай спадчыны. Можа, таму нашым суайчыннікам, куды б яны ні трапілі, гэты шэдэўр дапамагаў захаваць чалавечую годнасць, узбуджаў патрыятычныя пачуцці да сваёй Айчыны.

О, родны край, о, край пакуты,
Нягодай цяжкаю прыгнуты,
Калі ж ты збудзеш свае гора,
Што і цяпер там, як і ўчора,
Як і даўней, цябе знішчае
І горкім смуткам авявае?

Найчасцей такія прачулыя словы нараджаліся ў часіны глыбокіх жыццёвых узрушэнняў, калі лёс кідаў беларусаў у вір падзей часу, калі разлучаў з Радзімай. Згадаем, што і стварацца паэма «Новая зямля» пачала яшчэ ў нашаніўскую пару, у 1911 годзе, калі Якуб Колас за ўдзел у беларускім настаўніцкім з'ездзе адбываў кару ў Менскім астрозе. Тады ён напісаў раздзелы «Леснікова пасада», «Раніца ў нядзельку», «За сталом», «На першай гаспадарцы», «Пярэбары», «Дзядзька-кухар», «Смерць ляснічага», «Па дарозе ў Вільню», «Дзядзька ў Вільні», «На замкавай гары» і часткова раздзел «Дарэктар».

Першая сусветная вайна закінула паэта далёка «ад межаў родных» на працяглы час. На чужыне, на Куршчыне, працуючы настаўнікам у школе, Якуб Колас «у думках прылятае» на радзіму, працягвае пісаць паэму.

Асобныя раздзелы «Новай зямлі» змяшчаліся ў «Нашай Ніве» (1912), «Вольнай Беларусі» (1918), «Вольным сцягу» (1922) і «Адраджэнні» (1922). Гэта, зразумела, спрыяла папулярызацыі паэмы. І вось у чэрвені 1923 года ў Менску «Новая зямля» ўпершыню ўбачыла свет асобнай кніжкай. Праз чатыры гады з'явілася другое выданне, паводле яго выйшла і трэцяе, але ўжо не ў Менску, а ў Вільні (1931). З менскага трэцяга выдання, што пабачыла свет у 1934 годзе, ствараліся віленскія перавыданні трыццатых і пачатку саракавых гадоў. Менавіта яны найчасцей траплялі да суродзічаў на чужыну.

Паводле ўспамінаў беларускіх студэнтаў, што вучыліся ў Празе, у самой назве твора нашы эмігранты бачылі сімвал беларускага нацыянальнага Адраджэння. І гэтая думка,— даводзіў сваім равеснікам доктар філасофіі Ігнат Дварчанін,— «узрастае ўсё болей і болей. Пачынаецца хваравітая цяга да «Новае зямлі» і шуканне яе». Беларускіх эмігрантаў у Празе вельмі захаплялі абразкі з побыту сялян, «дзяцей прыроды». А яшчэ іх кранала, як праўдзіва і дасціпна падаецца аўтарам вясковае жыццё, душа самога селяніна, малюнкі беларускай прыроды. «Тут усё апісваецца адно за другім, нават самыя дробязі жыцця... як у «Іліядзе» Гамера, гэтым непераможным творы грэкаў. У «Новай зямлі» бачыцца найлепшы адбітак жыцця беларускага селяніна». У лісце да сваіх родных на Навагрудчыну Дварчанін згадваў урывак з паэмы, дзе падаецца малюнак «На сенажаці». Яго вельмі захапілі радкі:

Ідуць касцы, звіняць іх косы...
Касцы ідуць то грамадою,
То шнурам цягнуць, чарадою,
То паасобку, то па пары;
Ідуць касцы, ідуць, як хмары...

Вясковыя клопаты, прыход вясны і лета заўжды хвалявалі тых, хто быў у далечыні ад сваёй Бацькаўшчыны.

Значнай падзеяй у духоўным жыцці беларусаў на чужыне з'явілася мюнхенскае выданне «Новай зямлі» Якуба Коласа, якое клопатамі выдавецтва «Бацькаўшчына» ўбачыла свет у 1952 годзе. З густам аздобіў кнігу Міхал Навумовіч. Важна было і тое, што ў кнізе быў змешчаны ўступны аналітычны артыкул Р. Склюта, які сумленна падышоў да справядлівай ацэнкі класічнага твора. Даследчык усебакова разгледзеў крытычныя ацэнкі розных аўтараў, а затым выказаў сваё асабістае ўспрыняцце.

Характарызуючы трэцяе савецкае выданне «Новае зямлі» 1934 года, Р. Склют адзначыў, што ў тэксце адбыліся «дробныя змены», некаторыя з іх нават падаў. Аднак той, хто ведае той час, разумелі, што такія змены былі неабходныя. І гэта зазначыў сам аўтар у прадмове, дзе гаворыцца, што «паэма «Новая зямля» з яе асноўным мэтаімкненнем бясспрэчна гучыць дысанансам нашай эпосе... эпосе калектыўнай працы. Тэндэнцыі ўласніцтва, паложаныя ў васнову паэмы, асабліва выпінаюцца на фоне калгаснага будаўніцтва сённяшняга дня».

І ўсё ж прыхільнікаў беларускай літаратуры цешыла, што «Новая зямля» знаходзіць у народных масах «усё большае водгулле», а таксама знайшла ўдзячнага чытача «сярод нашае сённяшняе эміграцыі». І тут яна, магчыма, будзе ўспрымацца «старою», таму што «старою зямлёю», «старым краем» завуць суайчыннікі сваю дарагую Бацькаўшчыну, але ёсць перакананне, што перад іх вачыма паэма Якуба Коласа адкрые гэтую «старую зямлю» як найлепей.

Бібліяграфічны даведнік Вітаўта і Зоры Кіпеляў «Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе», выдадзены стараннем Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку ў 1985 годзе, дазваляе сцвярджаць, што мюнхенскае выданне «Новай зямлі» паклала пачатак актыўнай папулярызацыі гэтага класічнага твора беларускай літаратуры на эміграцыі. Асобныя ўрыўкі паэмы пачалі рэгулярна ўключаць у рэпертуар коласаўскіх угодкаў і літаратурных вечарынаў, розных культурных імпрэзаў. Характэрна, што прапагандыстамі паэмы звычайна выступалі беларускія эмігранцкія паэты, навукоўцы, святары, былыя настаўнікі і студэнты.

Адным з іх стаў паэт Уладзімір Клішэвіч (1914—1978), родам са Случчыны. Сілу Коласавай «Новае зямлі», яе паэтычнага радка, інтанацыі, простага, мудрага слова ён упершыню адчуў, калі разам з Тодарам Лебядою, Масеем Сяднёвым, Кастусём Суднікам і іншымі равеснікамі з літаратурнага факультэта Менскага педагагічнага інстытута быў высланы ў Сібір, а пасля на Калыму. Уладзімір Клішэвіч балюча перажываў разлуку з роднай зямлёю.

Я нявольнікам край свой пакінуў...
Боль трывожны душы не ўціх,
Ды таму, што Радзіму-Краіну
Сэрцам болей любіў за другіх,—

з сумам пісаў паэт-выгнанец у лісце з Сібіры.

Думкі! Сумныя думкі аб роднай, здавалася, назаўсёды страчанай Зямлі. Бо, «як толькі пачне жаласліва вецер песню спяваць па галлі», зноў успаміналіся «родныя нівы і прыбраныя ў кветкі палі». І, прыгадваючы сваю «новую зямлю», падалі «каплі слёз», бо не знайсці радзіму другую, «даражэй той, дзе змалку ўзрос...».

Пра ўсё гэта распавядаў Уладзімір Клішэвіч, калі выступаў 16 жніўня 1959 года перад суайчыннікамі на 3-я ўгодкі смерці Якуба Коласа. Тады ён чытаў урыўкі з паэмы...

Трэба згадаць, што таленавіты паэт і навуковец Уладзімір Клішэвіч неаднаразова выступаў перад украінскай супольнасцю Злучаных Штатаў, а таксама ва ўкраінскіх выданнях з апавядам пра жыццёвы шлях Якуба Коласа і пра яго паэму «Новая зямля».

Высока ацаніў «Новую зямлю» Масей Сяднёў, які гаварыў, што «Колас для нас нагэтулькі ж вялікі, наколькі вялікімі з'яўляюцца Гётэ, Дантэ, Байран». Хораша гаварыў пра «Новую зямлю» Яўхім Кіпель, які быў асабіста знаёмы з Якубам Коласам, сваімі ўражаннямі аб гэтым творы дзяліўся Пётра Сыч, афіцэр-беларус, удзельнік бітвы пад Монтэ-Касіна.

«Новая зямля» сваёй ідэйнай накіраванасцю, замілаванасцю да Айчыны зрабіла ўплыў на шмат якіх патрыётаў на чужыне. І тут варта адзначыць, што з Коласавым творам пераклікаюцца шматлікія вершы Ларысы Геніюш, Наталлі Арсенневай, Алеся Змагара, Рыгора Крушыны, Уладзіміра Дудзіцкага, Янкі Золака, Міхася Кавыля, Алеся Салаўя, Сяргея Ясеня ды іншых таленавітых літаратараў эміграцыі.

«Новая зямля» моцна ўразіла кампазітара Міколу Равенскага. Пралог паэмы з раздзела «Леснікова пасада» пад назвам «Мой родны кут» ён паклаў на музыку. Гэты дуэт для жаночых галасоў хораша выконвае ансамбль «Васілёк». Песня «Мой родны кут» стала любімай для Данчыка.

Коласаўскія вобразы мілага, роднага краю знайшлі адлюстраванне ў творчасці беларусаў-мастакоў. Уладзімір Шыманец, які жыве ў Францыі, намаляваў карціну «Леснічоўка ў Акінчыцах». Постаць Якуба Коласа і яго «Новая зямля» захапляюць і мастачку Лілі Бурнос з далёкага аўстралійскага горада Адэлаіда.

Хочацца верыць, што «Новая зямля» і надалей будзе служыць повязі нашых суайчыннікаў са сваім родным краем, будзе спрыяць, «каб новы свет жыцця саткаць, заспакаення сэрцу даць і разагнаць яго трывогі», каб стаць Беларусі сапраўды вольнай, незалежнай, дэмакратычнай.

## Хрусцікі. Хрумсцікі

Купляю ў краме прадаўгаватыя каробкі. На іх напісана «чипсы». Ну, думаю, штосьці замежнае. Але не, гляджу,— наш беларускі выраб. З бульбы. Выраб з бульбы, а назва невядома якая. Аж крыўдна за вытворцаў: больш за сто страў умеем гатаваць з бульбы. І для кожнай свой назоў маем: дранікі, бульбянікі, бабка.

А тут — «чипсы»! А можа, па-беларуску лепей было б хрусцікі, хрумсцікі?! Калі іх на зуб бярэш, яны хрумсцяць, то і хрусцікі, хрумсцікі.

На такую назву згаданы выраб мае поўнае права. У нашай мове ёсць словы: «Хрумсцець, хрумсткі», выклічнік — хрумст-хрумст. І тлумачальны слоўнік дае гэтыя словы. І прыклады да іх, сугучныя нашай гаворцы.

«Гэта быў ладны жытнёвы акраец з паджарыстай хрумсткай скарынкаю» (В. Быкаў). «Хрумст-хрумст»... чулася на плоце. Гэта дзеці елі рабіну» (І. Пташнікаў). А вось назоўніка з гэтым коранем у слоўніках няма, хаця ён такі натуральны. Хто ўзаконіць слова, назву?! Перакананы — беларусам, асабліва дзецям, яно будзе вельмі даспадобы. Адной назвай слінкі наганяе.

Хрусцікі, хрумсцікі. Вясёлыя словы.

## Зачын

Пра гэтае слова ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» гаворыцца:

1. *Разм.* Пачатак чаго-небудзь: пачын. 2. Пачатак песні, казкі, быліны, які характарызуецца асаблівым складам.

Нас цікавіць першае значэнне: зачын — пачатак чаго-небудзь. Шкада, што азначэнне не канкрэтызавана, а пазначана агульнымі словамі: «пачатак чаго-небудзь». Але такое неакрэсленае азначэнне дае падставы трактаваць яго шырока: зачын — гэта і папярэдняе планаванне, папярэдні прыкід, пачатак якойсь працы.

На тэлебачанні і радыё гэтае папярэдняе планаванне называюць «задзелам». Але многія адчуваюць, што тэрмін не зусім беларускі. Часам пытаюцца: «А як гэта па-беларуску?» Думаецца, слова «зачын» якраз дакладна перадае расійскае «задел» — гэта значыць тое, што ўжо напрацавана, зроблена на запас, а таксама і размоўнае: пачатая праца, якая патрабуе працягу.

І ў вядомым слоўніку І. І. Насовіча чытаем: Зачинъ. Почин, приступ к делу. Ад добрага зачыну залежыць справа.

І перад тым як пячы хлеб, колісь за дзень-другі яго расчынялі. Той самы зачын. Колісь на Беларусі і дні былі чынныя (працоўныя) і нячынныя (непрацоўныя, святочныя).

То, мабыць, ёсць усе падставы беларусам карыстацца словам «зачын» больш шырока, чым пра гэта гаворыцца ў слоўніку. Зусім натуральна гучыць: «Пайшоў на «зачын» (а не на «планёрку»). «Сёння на зачыне гаварылі», «На сённяшнім зачыне тваю праграму знялі, перанеслі, скасавалі».

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

# Язык, як перац

***Наш славуты мовазнаўца Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі вельмі любіў жывое беларускае слова. Вельмі цікавілі яго сакавітыя, вобразныя параўнанні, з дапамогай якіх нашы продкі распазнавалі, пазнавалі, успрымалі рэчы.***

***Параўнанні вучылі дзяцей бачыць разнастайны, каляровы навакольны свет. Параўнанні дапамагаюць таксама пісьменнікам і вучоным. Шмат такіх вобразных, адточаных слоў пачуў Фёдар Міхайлавіч ад пастухоў і аратых, ад жней і цесляроў, ад мудрых бабуляў і дзядоў, пачуў і запісаў, а пасля і панёс людзям — друкаваў у часопісах. Выйшлі яны і асобнай кніжкай, якая стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Але як патрэбны параўнанні нам сёння, калі мы вяртаемся да роднага слова!***

***Прапануем чытачам некаторыя перлінкі з кніжкі Ф. Янкоўскага «Беларускія народныя параўнанні».***

Багаты, як зямля
Багата (сліў, вішань), як расы
Багата, як лісця (як травы)
Багата, як зорак на небе (у небе)
Багата, як ігліцы ў бары
Багата, як на галаве валасоў
Багацця, як у пагарэльца
Баіцца (марозу), як француз
Баіцца, як агню
Баіцца, як астрогу
Баіцца, як воўк авечкі
Баіцца, як воўк ягняці
Баіцца, як гадзюкі
Баіцца, як заразы
Баіцца, як кот сабакі
Баіцца, як леташняга снегу
Баіцца, як мух узімку
Баіцца (холаду), як прусак
Баіцца, як чорт крыжа
Баіцца, як шалёны сабака вады
Балбоча, як цецярук (як удод)
Барабаніць, як пустая бочка
Бачыць, як птушка (як арол, як сокал)
Баязлівы, як заяц
Бегае (лётае), як блёкату аб'еўшыся
Бегае, як з ланцуга сарваўшыся
Бегае, як падсмалены
Бегае, як рыцыны (рыцынавага алею) глынуўшы
Без клопату, як дзіця
Без прылады (без начыння), як без рук
Белабокі, як сарока

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

*Працяг. Пачатак у №№ 24—30.*

## ХТО ТАКІ ГЕДЗІМІН?

Гедзімін быў сынам вялікага князя Віценя і ўзышоў на велікакняскі пасад у 1316 годзе пасля смерці бацькі. Пачатак яго княжання быў пазначаны перамогай над крыжакамі пад Жэймамі. Каб супрацьстаяць Ордэну, вялікі князь узводзіць шэраг замкаў на паўночным захадзе Беларусі (у Троках, Вільні, Медніках, Навагародку, Лідзе, Мядзеле). Ён жа пераносіць сталіцу Вялікага Княства з Навагародка ў Вільню — старадаўні цэнтр крывіцкай каланізацыі, які напачатку меў назву Крывічград,— і будуе там замак. У 1320 годзе каля Меднікаў Гедзімін на чале беларускага войска зноў разбіў крыжакоў. Але дасягнуць перамогі над Ордэнам, спадзеючыся толькі на зброю, было немагчыма, таму ён актыўна падтрымліваў варожых крыжакам Рыгу, Пскоў і Полыччу.

Шукаў Гедзімін і міжнароднага прызнання Вялікага Княства і з гэтай мэтаю паслаў грамату да папы рымскага Яна XXII, у якой паведамляў, што жадае прыняць хрысціянства паводле заходняга абраду, а таксама ахрысціць паганцаў у сваёй дзяржаве. Але планы Гедзіміна не знайшлі падтрымкі як сярод праваслаўных, так і сярод прыхільнікаў паганства ў Вялікім Княстве. Акрамя таго, яны не адпавядалі і палітычным інтарэсам Ордэна крыжакоў, бо касавалі «падставу» іхнай экспансіі на ўсход. І вялікі князь мусіў адмовіцца ад сваёй задумы.

Следам за сваімі папярэднікамі Гедзімін працягваў палітыку аб'яднання беларускіх земляў, умацавання нашага гаспадарства. У часы яго валадарання ў склад Княства ўвайшлі Менская, Віцебская, Турава-Пінская землі. Палітычная мудрасць Гедзіміна выявілася ў тым, што новым землям ён гарантаваў захаванне традыцыйных законаў — «старыны не рушыць, навіны не ўводзіць».

Загінуў Гедзімін падчас штурму нямецкага замка Баербург у 1341 годзе.

**Вітаўт ЧАРОПКА.**

## ЯКАЯ МОВА БЫЛА ДЗЯРЖАЎНАЙ У ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ?

Дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім была беларуская мова, бо беларускі этнічны элемент панаваў у палітычным, эканамічным і культурным жыцці Княства, а нашыя землі складалі аснову яго магутнасці.

Галоўнае сведчанне дзяржаўнасці беларускае мовы — абслугоўванне ёю патрэбаў дзяржаўнага кіравання. Наша мова мела для гэтага ўсе неабходныя якасці, найперш пісьмова-літаратурную форму, досыць апрацаваную. Найбольшай дасканаласці яна дасягнула перадусім у сферы справавой пісьменнасці, самай пашыранай, якая якраз і ўжывалася ў дзяржаўным жыцці. На беларускай мове ўбачылі свет усе зводы законаў нашай старажытнай дзяржавы: Вісліцкі статут 1423—1438 гадоў, Судзебнік Казіміра Ягайлавіча 1468 года, Статуты 1529, 1566 і 1588 гадоў, Трыбунал 1586 года, а таксама вялікая колькасць дакументаў Метрыкі Вялікага Княства — архіва, які налічвае не адну сотню тамоў.

Мова нашых продкаў выконвала дзяржаўную функцыю на ўсёй тэрыторыі гаспадарства, была сродкам зносін паміж людзьмі розных нацыянальнасцяў, што жылі тут. Ужыванне беларускай мовы ў сферы афіцыйнага справаводства было замацаванае заканадаўча: у Статуце Вялікага Княства пра гэта быў спецыяльны артыкул (раздзел 4, артыкул 1).

Праўда, пачынаючы з XVII стагоддзя (з прычыны ўзмацнення польскай экспансіі і перайманне чужой мовы шляхтай у сітуацыі двухмоўя), наша мова пакрысе пачала выцясняцца з афіцыйнага ўжытку. Урэшце пастановай Сойму 1696 года статус дзяржаўнай мовы на тэрыторыі Княства быў замацаваны за польскай мовай.

**Уладзімір СВЯЖЫНСКІ.**

## ХТО ТАКІ АЛЬГЕРД?

Альгерд, сын Гедзіміна, у юнацтве ажаніўся з дачкою віцебскага князя Марыяй Яраслаўнай і два гады пражыў у горадзе Усвяты, а пасля, да 1345 года, у Віцебску. З дапамогаю брата Кейстута, троцкага князя, Альгерд скінуў з велікакняскага пасада Яўнута і сам стаў вялікім князем.

У часе ягонага валадарання да Вялікага Княства Літоўскага былі далучаныя Мсціслаўская, Чарнігаўская, Кіеўская, Падольская, Ноўгарад-Северская, Бранская землі. На гэтыя часы прыпадае і пік крыжацкіх паходаў на Беларускую дзяржаву. З дапамогай Альгерда ў 1342 годзе Пскоў адбіў крыжацкі набег. Акрамя таго, яшчэ двойчы, у 1348 і 1370 гадах, Альгерд разбіваў крыжакоў на рэках Строве і Рудаве. Адначасова ён паспяхова змагаецца з Полышчай і Уладзімірскім княствам. Беларускія вої пад Альгердавым кіраўніцтвам даходзілі да Масквы. Яны тройчы разбівалі маскоўскае войска — у 1368, 1370 і 1372 гадах.

Падчас аднаго з паходаў, узяўшы з маскоўскага князя Дзмітрыя Іванавіча (пазней названага Данскім) вялікі выкуп — як сведчыць летапіс, «дары многія, незлічона золата, серабра, жэмчугу, сабалёў», сказаў векапомныя словы: «Хоць я з табой і памірыўся, але хачу яшчэ тую славу сабе ўчыніць, што вялікі князь Альгерд дзіду сваю пад Масквою прыкланіў». І сеўшы на каня, пад'ехаў да гарадской сцяны і прыставіў да яе дзіду, сімвалізуючы тым поўную перамогу.

Але найбольшага поспеху Альгерд дамогся ў вайне з татарамі. У бітве каля ракі Сінія Воды ў 1362 годзе беларускае войска разбіла орды падольскіх, крымскіх і дунайскіх татараў і вызваліла з-пад іх улады украінскія землі.

Летапісы адзначалі, што гэты князь «не так сілаю, як розумам ваяваў». Вайсковыя і палітычныя заслугі Альгерда прызнавалі і крыжакі, і маскоўцы, і палякі, і татары. Жыццёвы шлях яго скончыўся ў 1377 годзе.

**Вітаўт ЧАРОПКА.**

*Працяг будзе.*

# Вітаўт Чаропка: «Пісьменніку трэба мець мужнасць»

***У выдавецтве «Мастацкая літаратура» летась выпушчаны ў свет гістарычны раман маладога літаратара Вітаўта Чаропкі «Храм без Бога». Але наша сённяшняя гутарка з аўтарам — пераважна пра яго новую працу.***

**— Вітаўт, дайшлі чуткі аб тым, што вы ствараеце падручнік па старажытнай ваеннай гісторыі.**

— Па-першае, чуткі не зусім дакладныя. Я не ствараю, а ўжо напісаў кнігу. Праўда, не падручнік, а зборнік гісторыка-літаратурных нарысаў пра вайсковых і палітычных дзеячаў старажытнай Беларусі, пачынаючы ад полацкага князя Рагвалода і да вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Аляксандра Ягелона. На самым пачатку працы мэта была вызначана вельмі простая: даць мінімум звестак пра беларускія падзеі, якія ў свой час істотна ўплывалі на ход агульнаеўрапейскай гісторыі.

Для кнігі я сабраў цікавы ілюстрацыйны матэрыял: больш за сто рэпрадукцый плюс складзеныя мною гістарычныя карты. Спадзяюся, што кніга «Імя ў летапісе» (а яна ў хуткім часе павінна выйсці ў выдавецтве «Полымя») будзе прыхільна сустрэта чытачамі.



**— Ці можна, на ваш погляд, гаварыць сёння пра існаванне грунтоўнай крыніцазнаўчай плыні ў галіне ваеннай гісторыі Беларусі?**

— Наўрад ці... Справа ў тым, што ўвогуле падобнай літаратуры вельмі мала. Тыя кнігі, якія выйшлі, пакідаюць даволі сумнае ўражанне. Таму, па-першае, што гэта не даследчыцкія працы, а, хутчэй за ўсё, адвольны пераказ вядомых манаграфій рускіх і польскіх гісторыкаў. Такое ўражанне, што нашы гісторыкі цураюцца сур'ёзнай працы, свайго позірку на падзеі ў іх няма. Яны нават не трымалі ў руках многіх вядомых крыніц. А хто сапраўды зацікаўлены беларускай гісторыяй — той працуе. Само жыццё яшчэ не раз прад'явіць нашым гісторыкам маральны рахунак.

**— Вітаўт, але ж рахунак можна прад'явіць і пісьменнікам. Колькі блытаніны ў іх з фактамі, колькі недакладнасцей.**

— Звычайна пісьменнікі на карысць уласнай канцэпцыі адвольна карыстаюцца фактамі. Яркі прыклад — раман Талстога «Вайна і мір». Там шмат гістарычных недакладнасцей. Колькі дакаралі яго за гэта. Але ж Талстой непаўторна перадае тагачасную атмасферу, уплыў вайны на лёс асобных людзей і грамадства ўвогуле! А гістарычная праўда — гэта ўжо клопат гісторыкаў.

І нам, літаратарам, трэба галоўную ўвагу аддаваць асвятленню глыбінных працэсаў у грамадстве, бачыць у віры падзей чалавека. Але дзеля таго, каб адкрыта, на ўвесь голас, сказаць праўду, пісьменніку трэба мець грамадзянскую мужнасць.

**— Працуючы над кнігай «Імя ў летапісе», вы, відаць, ахвяравалі сваімі задумамі мастацкага плану?**

— Так, ужо нават забыўся, калі браў у рукі пяро празаіка. Мне зараз цікава шукаць, аспрэчваць пашыраныя гістарычныя догмы, усталяваныя, але далёкія ад праўды меркаванні. Паверце, у гэтым ёсць асаблівая прывабнасць. Працуеш, нібыта следчы. І калі знаходжу нешта для сябе новае і невядомае, то адчуваю сябе як першаадкрывальнік.

Хацелася б пісаць і мастацкія творы. Сюжэты ёсць. Былі моманты, калі адкладваў гістарычнае, браўся за «чыстую» прозу. Так узнікла кніга «Геній смерці». Завершана праца над новай гістарычнай аповесцю пра падзеі ў дахрысціянскай Беларусі, а дакладней — у старажытнай Літве. Асновай сталі беларускія паданні. На Захадзе ў літаратуры існуе цэлая плынь «фэнтэзі», дзе гісторыя пераплятаецца з міфамі, фальклорам, легендамі, дзе рэальнае прысутнічае разам з ірэальным.

**— Калі не сакрэт, што задумаў Вітаўт Чаропка і як гісторык і як празаік на будучае?**

Цяпер пішу кнігу «Валадары Вялікага княства». Мяркую ахапіць XVI—XVIII стагоддзі. Часам прыходзяць думкі, што гэтага ніколі не асіліш, не апішаш. Зрэшты, гістарычная кніжка — самае каштоўнае з таго, што я напісаў увогуле. Гісторыяй цікавіцца кожнае пакаленне. І колькі пакаленняў — столькі жыццяў у кнігі. Пагадзіцеся, для рускіх не састарэў, ніколі не састарэе Салаўёў, як і Ключэўскі. Менавіта разуменне гэтага надае сілу, жаданне ствараць. Ёсць і іншыя канкрэтныя задумы. Хачу, напрыклад, напісаць працяг рамана «Храм без Бога».

**— Вітаўт, уявіце сабе, што ў дзяржаўным выдавецтве раптам узнікла жаданне выдаць серыю мастацкіх кніг пад назвай «Бібліятэка ваенна-мастацкай літаратуры». Што, на ваш погляд, было б варта туды ўключыць?**

— Перш-наперш неабходна выдаваць першакрыніцы. Хто з нас чытаў «Хронікі Пракопія Кесарыйскага» пра славян?! А чаму б не выдаць томік беларускіх хронік? Ці Хроніку Лівонскую Генрыха Латвійскага, альбо Хронікі Длугаша ці Стрыйкоўскага? Там жа — мора матэрыялаў пра Беларусь. А ўвогуле, каб у беларусаў з'явілася падобная серыя кніг, трэба не адному пакаленню літаратараў паднімаць неруш нашага мінулага.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## Культура мовы

# Грэцкі ці грэчаскі?

Прыметнікі ад асабовых назоўнікаў, ад геаграфічных і этнічных назваў утвараюцца з дапамогай суфікса -ск-. На месцы суфіксальнага с можа ўзнікнуць гук ц — як вынік фанетычных працэсаў прыпадабнення (асіміляцыі), сціжэння гукаў (фінальнага гука ўтваральнай асновы і першага гука ў суфіксе -ск-: *брэст-ск-і — брэсцкі, гарадок-ск-і — гарадоцкі).*

Ад слоў *Грэцыя, грэк* таксама — натуральнае ўтварэнне *грэцкі*, як ад *Турцыя, турκі — турэцкі*, ад *жрэц — жрэцкі, купец — купецкі, узбек — узбецкі.* Форма *грэцкі* падтрымліваецца і словам *грэцызм* (так называюць словы, што пазычаныя з *грэцкай* мовы).

Форма *грэчаскі* — штучная, ненатуральная для беларускае мовы, бо прыметнікі не маюць у нас канцавой часткі — *«-часкі»*. Нашы слоўнікі (акадэмічныя) падаюць натуральную форму толькі ў найменні *грэцкі арэх*, а мову грэкаў патрабуюць ужо называць на іншамоўны лад — *грэчаская*, каб было аднолькава з усесаюзным *греческий.* У адраджэнскія дваццатыя гады скрозь пісалі *грэцкі* адпаведна беларускім словаўтваральнай і фанетычнай заканамернасцям.

І сёння ў шэрагу аўтарытэтных перыядычных выданняў выкарыстоўваецца такая форма. Напрыклад, у газеце «Літаратура і мастацтва» за 21 жніўня 1992 года ў артыкуле «Мова і менталітэт» (с. 5) чытаем: «...у *грэцкай* мове...»

**Павел СЦЯЦКО.**

## УВАГА!

**III з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны прыняў рашэнне аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Статут ТБМ.**

**Просім усіх сяброў Таварыства, хто зацікаўлены ва ўдасканаленні работы ТБМ, дасылаць свае прапановы на адрас: 220005, Мінск, Румянцава, 13 (тэл. 33-25-11).**

**Яўген ЦУМАРАЎ,**
**старшыня камісіі,**
**намеснік старшыні ТБМ**
**імя Ф. Скарыны.**

# У свеце прыгожага

Пры Браслаўскім краязнаўчым музеі ўжо не першы год працуе мастацкая студыя «Ля возера». Яна аб'ядноўвае мясцовых мастакоў, ткачоў, разьбяроў на дрэве. А нядаўна тут з'явілася і секцыя пляцення з саломкі, якой кіруе Элеанора Зінкевіч (на здымку).

**Фота**
**Яўгена КАЗЮЛІ.**
**Белінфарм.**





# ДЗЯКУЕМ!

*Генеральнаму дырэктару ВА «Белаўтамаз» сп. Лаўрыновічу М. Ф.*

*Усяму калектыву вытворчага аб'яднання*

**Паважаны Міхаіл Фёдаравіч!**
**Паважаныя аўтазаводцы!**

**Выказваем шчырую падзяку за матэрыяльную падтрымку Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Пералічаныя аб'яднаннем на рахунак ТБМ 250 тыс. рублёў — гэта для нас вельмі дарагі дарунак. І дарагі ён не толькі як матэрыяльная падтрымка дзеля ажыццяўлення статутных задач, хаця і гэта для нас мае вельмі вялікае значэнне.**

**Нам дарага, што гэтая Ваша акцыя сведчыць аб высокай грамадзянскай пазіцыі і разуменні неабходнасці канкрэтнага ўдзелу ў справе адраджэння і развіцця нашай роднай мовы, нашай нацыянальнай культуры.**

**Сакратарыят ТБМ**
**імя Ф. Скарыны.**

## «АРШАНСКАЯ БІТВА-93»

***28 жніўня адбудзецца традыцыйны фестываль беларускай аўтарскай песні «Аршанская бітва-93», прысвечаны 479-й гадавіне знакамітай падзеі. Гасцей сустрэнуць на прывакзальнай плошчы чыгуначнага вакзала Оршы. Пачатак фэсту а 20-й гадзіне. Кантактныя тэлефоны ў Оршы: 2-24-06, 2-45-42.***

**Ініцыятыўная група.**

# У фонд «Нашага слова» ахвяравалі:

**Зора і Вітаўт Кіпелі — 50 долараў ЗША, Бранісла ў Даніловіч — 20 долараў ЗША.**

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**4 ЖНІЎНЯ, СЕРАДА**

**17.40. Скарбы беларускай гісторыі. Для школьнікаў.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**21.00. Панарама.**
**22.55. НІКа.**

**5 ЖНІЎНЯ, ЧАЦВЕР**

**10.40. «Беларусь мая...» Сустрэча з паэтам Г. Бураўкіным.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**20.00. Беларусы свету. Свята ў будны дзень.**
**21.00. Панарама.**
**23.35. НІКа.**

**6 ЖНІЎНЯ, ПЯТНІЦА**

**16.45. Голас. Літаратурна-мастацкі канал для школьнікаў.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.40. Духоўная спадчына. Перадача 6-я.**
**21.00. Панарама.**
**24.00. НІКа.**

**7 ЖНІЎНЯ, СУБОТА**

**9.00. Тэлебом. Шоу-конкурс юных выканаўцаў.**
**10.00. Гараднiца. Літаратурна-мастацкая праграма. Паказвае Гродна.**
**16.00. Метраном. «Вяртанне Станіслава Манюшкі».**
**21.00. Панарама.**
**23.50. НІКа.**

**8 ЖНІЎНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

**13.55. «Скарб-93». Свята талентаў. Перадача 1-я.**
**15.10. «Скарб-93». Свята талентаў. Перадача 2-я.**
**20.00. Панарама.**

## «ФАРГЕЛЕТ»

**(фельетон)**

Некалі, у хрушчоўскі час, да нас у вёску прыехаў з раёна лектар прачытаць лекцыю. У клуб прыйшло некалькі калгаснікаў, найбольш старых дзядоў, каб паслухаць разумнага, як яны думалі, чалавека. Лектар доўга распінаўся на трыбуне, сыпаў фактамі і лічбамі, заклікаў сеяць кукурузу на палетках, балотах і нават на сотках, каб дагнаць і перагнаць Амерыку па надоях малака.

Нарэшце ён змогся, закончыў сваю гаварыльню і кінуў позірк на дзядоў:

— Пытанні ёсць?

— Ёсць адно,— падняўся з пярэдняй лаўкі дзед Нічыпар.— Скажы, начальнік, што значыць слова «фаргелет»?

Лектар ад нечаканага пытання разгубіўся:

— Што, што вы сказалі?

— Растлумачце мне слова «фаргелет»,— настойваў дзед.

— Не ведаю,— пачырванеў і ажно спацеў лектар.— Дзе ты, дзед, такое слова пачуў і падчапіў? Замежнае яно нейкае, чужое. Капіталістычнае.

— Не пачуў яго, а ўбачыў, — пачаў расказваць Нічыпар. — Паехаў я быў летась у горад да сына. Прыехаў і пайшоў на пошту, каб адбіць старой тэлеграму. Маўляў, я ўжо ў горадзе, на месцы, і нічога кепскага ў дарозе са мною не здарылася. Пераступіў парог гэтай пошты і бачу на шкляных дзвярах надпіс: «Телеграф». Заходжу за гэтыя шкляныя дзверы, зірнуў на іх з другога боку і ўбачыў другое слова на шкле дзвярэй: «фаргелет». Дык што ж значыць гэтае другое слова, начальнік? Растлумачце мне,— наступаў дзед.

Лектар зусім разгубіўся.

— Не ведаеш! — узрадаваўся стары Нічыпар, што загнаў сваім пытаннем у кут раённага начальніка.— А я вось ведаю. Гэта ж тое самае слова «телеграф», толькі чытаць яго трэба наадварот.

Усе ў клубе зайшліся ад рогату.

Нядаўна ў яшчэ горшае становішча, чым той раённы лектар, трапіў і я.

Неяк у нядзелю завітаў да мяне сусед і кажа:

— Ты адукаваны чалавек, журналіст. Растлумач мне, што азначаюць словы «Прэс-Х», «Силикон», «Импэкс», «Дудно», «Бомар», «Пульсар», «Антарэкс».

Доўга я думаў, ламаў галаву. І адказу не знайшоў.

— Не ведаю,— прызнаўся я суседу і ў сваю чаргу папытаў:

— А дзе ты, сусед, такіх слоў нахапаўся? Замежныя яны нейкія.

— Ха! — узрадаваўся ён, што мяне падкузьміў.— Не замежныя яны, а нашыя, маладзечанскія. У нас іх выдумалі. Пойдзем у горад, я пакажу табе гэтыя словы.

І мы пайшлі. Наблізіліся да гастранома № 8, ля якога туліўся камерцыйны кіёск, падобны на шпакоўню. У ім прадавалі марозіва. Верх аздабляла шыльда «Силикон».

— Бачыш назву гэтага прадпрыемства? Падумай, што яна азначае,— насядаў на мяне сусед.— Можа, гэта не «Силикон», а «Сілівон», назва ад вёскі Сілівонаўка?

— Не ведаю! — уздыхнуў я.

— То давай у гаспадара папытаем,— здагадаўся сусед.

Усунуў я галаву ў акенца шпакоўні. Там, у цемені, сядзеў малады чалавек і папыхваў дарагой цыгарэтай.

Пытаюся ў яго:

— Дзе, скажыце, вы ўзялі такую мудрагелістую назву для свайго прадпрыемства?

Хлопец тыцнуў пальцам у столь:

— На небе!

Бач, не на зямлі, а на небе, у багоў, нараджаюцца новыя словы. Аказваецца, нашы камерсанты карыстаюцца касмічнай мовай, а мы не ведаем і дудзім пра родную, беларускую!

Рушылі далей і спыніліся каля кіёскаў «Импэкс» і «Антарэкс», якія стаялі побач. Зірнуў я на адну шыльду, на другую, і ў мяне закружылася галава — не магу зразумець: адна гэта назва ці дзве. Звяртаюся да прадаўшчыц прадпрыемстваў:

— Што азначаюць вашы назвы?

Маўкліва паціскаюць плячыма.

Пайшлі далей і забрылі ажно на вуліцу Прытыцкага. Там гэтых кіёскаў, што ластаўчыных гнёздаў пад дахам вясковага дома. Падыходзім да «Бомара». Зноў пытаюся ў белакосай камерсанткі, што азначае назва яе кіёска.

— Не ведаю,— адказала яна.

Па дарозе дамоў сусед мяне «падкалоў»:

— Ну што, грамацей, пасадзіў я цябе ў галёш?

Я змаўчаў. І раптам прыгадаў дзеда Нічыпара з нашай вёскі. Вось каб цяпер ён жыў ды прайшоўся па гэтых вуліцах, то пэўна ж не тое што раённага лектара — самога акадэміка мовазнаўства пасадзіў бы ў галёш.

**М. КАПЫЛОВІЧ.**
**г. Маладзечна.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83



**Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.**

Індэкс 63865. Зак. 282.

**МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.**

**Наклад 7104 паасобнікі. Падпісана ў друк 2.08.1993 г. у 15 гадзін.**